# ДЗЯРЖАЎНЫ ГЕРБ БЕЛАРУСКАЙ ССР.




У ліпені месяцы г.г. у сталіцы БССР—у горадзе Менску адбылася Першая Сесія Вярхоўнага Совета БССР.

Сесія ўнесла змены ў артыкул 119 Канстытуцыі БССР і зацвердзіла наступнае ізабражэнне дзяржаўнага герба БССР.

Дзяржаўны герб Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі складаецца з ізабражэння ў праменнях узыходзячага сонца сярпа і молата, акружаных вянком, які складаецца злева з жытніх каласоў, пераплеценых канюшынай, і справа—з жытніх каласоў, пераплеценых ільном; унізе паміж абодвума палавінамі вянка знаходзіцца частка земнага шара. Абедзве палавіны вянка перавіты чырвонай лентай, на якой змешчаны надпісы на беларускай і рускай мовах: „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!“ і ніжэй ініцыялы „БССР“. На версе герба знаходзіцца пяціканцовая зорка.

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ЖНІВЕНЬ 1938 г. № 8.

# Буду я летчык



*Верш М. Калачынскага*






Малая Ірынка
З атрада спяшыць,
Дадому дзяўчынка
Са збору бяжыць.

Прыбегла. Шагае
У светлы пакой,
Там брацік гуляе
З мадэллю сваёй.

— Глядзі, самалёцік
Зрабіў я які,
Бо буду я лётчык,
Як Чкалаў, такі.

Ды ты не дзівуйся,
Настануць гады,
І я паімчуся
На полюс, на ільды;

І першым вось чынам
Цябе пазаву
Ляцець над краінай
У горад Маскву.

З табой паглядзім мы
У роднай Маскве,
Дзе Сталін любімы
Працуе, жыве.

# МАЛЕНЬКІЯ ПАРТЫЗАНЫ



*Рысункі К. Гедда*

Лі і Фо прабраліся з горада да свайго бацькі, партызана Ха Ціна. Сярод іншых навін яны паведамілі, што ў Уху японцы грузяць цэлы поезд са снаражэннем і баявымі прыпасамі.

— Вось дзе зброя!—узрадваліся партызаны.—Трэба пусціць поезд пад адкос!

— Не,—рашуча заявіў Лі Хао,—на шум ад крушэння збягуцца патрулі, ды і вагон з паяздною вартай можа ўцалець. А нам, пакуль у нас няма зброі, трэба быць асцярожнымі.

— Дык што-ж рабіць?—хваляваўся атрад.

Седзячы каля бацькі, Лі і Фо з цікавасцю слухалі гэтыя размовы. І раптам у Лі нечакана мільганула смелая думка.

— Бацька!—тузануў ён за рукаў захопленага спрэчкаю Ха Ціна.—А што, калі мы з Фо прабярэмся ўначы на станцыю і залезем на буферы?

Нават не даслухаўшы сына да канца, Ха Цін імкліва кінуўся да Лі Хао.

— Начальнік, — усхвалявана загаварыў ён,—мае рэбяты ўсё зробяць. Ты толькі паслухай, што яны прыдумалі!..

Даведаўшыся аб прапанове хлопчыкаў, Лі Хао з сумненнем паківаў галавою:

— Не дабяруцца. Ды наогул, што змогуць зрабіць хлапчукі, з якіх аднаму 14, а другому 12 гадоў?



*— Начальнік,—усхвалявана загаварыў ён,—мае рэбяты ўсё зробяць.*

— Ай, што ты! Гэта-ж Лі ўжо даўно дапамагаў мне пры счэпцы паяздоў. Ён спрытны хлапчук. Ды і малодшы ад яго не адстане,—запярэчыў Ха Цін.

Лі Хао, усё яшчэ сумняваючыся, паглядзеў на хлопцаў. Лі, каранасты і дужы, і высокі, гібкі Фо смела сустрэлі заклапочаны погляд партызана.

Праз поўгадзіны быў дэтальна распрацован план дзеянняў, і хлопчыкі бягом накіраваліся ў горад.

З надыходам цемнаты хлопцы ўжо круціліся ля агарожы таварнай станцыі, дзе грузіўся поезд. Але прайсці да яго было цяжка: усюды, як мурашкі, шнуравалі японцы. Урэшце, пагрузка скончылася, і ля поезда асталася толькі паяздная брыгада.

— Пара,—рашыў Лі, які пільна наглядаў праз шчыліны ў агарожы за тым, што адбывалася на станцыі, і як кот, узлез на агарожу. Фо палез за братам.

Ад поезда да хлопчыкаў было не больш 40 метраў. Але прайсці гэту частку шляху было найцяжэй. Усюды шмыгала японская ахова. Прышлося падпаўзаць пад стаяўшыя на пуцях вагоны і чакаць зручнага моманту, каб за спіной японскіх вартавых прасунуцца на некалькі шагоў.



Нарэшце, братам удалося дасягнуць мэты і залегчы пад вагонам. Гэты вагон быў трэцім ад канца састава. Прайшоў старшы кандуктар з камендантам поезда і праверыў пломбы на вагонах. Потым майстар доўгім малатком пастукаў па колах вагона.

— Цяпер і мы падрыхтуемся,—прашаптаў Лі.

Хлопчыкі падпаўзлі да счаплення трэцяга і другога вагонаў. Стаўшы на калені, Лі ўхапіўся за рычаг і, напружваючы ўсе сілы, некалькі раз павярнуў яго, каб паслабіць нацягнутае счапленне. Потым браты ўзлезлі на буферы другога вагона. Кожнае імгненне да адыходу поезда здавалася ім вечнасцю. Але праз некалькі хвілін поезд, бразгаючы на стыках рэек, мінуў станцыю, і хлопцы ўздыхнулі вальней: пакуль поезд знаходзіўся на станцыі, японцы лёгка іх маглі заўважыць.

Праз поўгадзіны поезд пайшоў пад ухіл Паравоз крыху затармазіў. Вагон, да якога падчапіліся хлопцы, стукаючы буферамі, пачаў насядаць на трэці вагон. Пятля счаплення паднялася да самага краю вагоннага крука.

— Цягні!—закрычаў Лі і ўхапіўся рукамі за пятлю.

З другога боку ўхапіўся Фо. Счапленне было скінута. Гэтак сама скінуты былі і абодва ланцугі запасных счапленняў.

У гэты час партызаны, прабраўшыся праз лясны гушчар, заляглі ў кустах ля чыгуначнага насыпу. Усіх іх трывожыла неадчэпная думка: што здарылася з хлопчыкамі?



*Браты ўзлезлі на буферы другога вагона.*

Нарэшце пачуўся грукат набліжаючагася поезда, а праз хвіліну ён прайшоў ужо міма, цяжка пыхкаючы. Раптам партызаны, напружана ўглядаючыся ў хвост састава, заўважылі, што два апошніх вагоны аддзяліліся ад поезда і пачалі зацішаць ход. Байцы хутка кінуліся да насыпу.

Раніцою на лясной палянцы ляжалі кучы вінтовак, патронаў і нават некалькі кулямётаў. Партызаны спешна ўзбройваліся ад галавы да ног, рыхтуючыся да першага паходу, план якога быў даўно распрацаваны Лі Хао. Японская пагоня, падаспеўшая толькі пад вечар, убачыла на лясной палянцы толькі пустыя скрынкі і патухшыя вогнішчы.

А праз месяц партызанскі атрад Лі Хао налічваў ужо каля тысячы байцоў і зрабіўся гразою для японскіх часцей у раёне Уху. За галаву Лі Хао японцы вызначылі прэмію ў пяць тысяч далараў. Але кітайскі народ не выдае ворагу сваіх партызан!





# ЗА ВУЧОБУ

*Верш Л. Круцілава*

Зноў гамоніць наша школа,
Дзень заняткаў надышоў;
Чутны песні, смех вясёлы
Маладых таварышоў.

Тут усё падрыхтавана
Для вучобы дзетвары,
Класы весела прыбраны,
І прыгожа на двары.

І партрэты, і плакаты,
І малюнкаў досыць тут,
Ўсім цікавяцца рэбяты,
Аглядаюць кожны кут.

Мішы дома не сядзіцца,
Да настаўніцы ідзе,
Кажа: „Я хачу вучыцца,
Надакучыла сядзець“.

„Пагуляй яшчэ, Міхаська,
Шэсць гадкоў табе—ты мал,
Будзе восем—калі ласка,
Запішу цябе ў журнал“.

Тут цікавага багата
Паглядзім у вольны час,
А цяпер званок, рэбяты,
За вучобу! Айда ў клас!



# АДВАЖНЫ БАРАБАНШЧЫК

У Іспаніі ёсць горы Монтсэрат. У гэтых гарах вельмі добрае рэха. Крыкнеш там якое-небудзь слова, а канец яго сто раз паўторыцца ў гарах. Хлопнеш у ладкі і здаецца, што сто чалавек хлопаюць за табой як у тэатры.

І вось—гэта было даўно, даўно—на Іспанію, таксама як і зараз, напалі ворагі,—тады гэта былі войскі французскага імператара Напалеона. Падышлі яны к гарам, а ў гарах у той час іспанскіх салдат было мала. Усяго адзін невялікі атрад, а ворагаў—мноства. Вось-вось уступяць яны ў горы Монтсэрат.

Але ў іспанскім атрадзе быў адзін хлопчык-барабаншчык. Гэта быў вельмі разумны і храбры хлопчык.

Ён схаваўся сярод скал і давай з усіх сіл стукаць у свой барабан. І раптам слухаюць ворагі—барабаняць сто барабанаў.

Яны спыніліся і падумалі, што насустрач ім ідуць усе іспанскія палкі—уся армія адразу.

А барабан стукаў усё гучней і гучней. І рэха ў скалах грымела да таго, пакуль салдаты Напалеона не дрогнулі і не пусціліся наўцёкі.

Яны-ж не ведалі, што зусім блізка ад іх за скалой хаваецца ўсяго адзін адважны маленькі барабаншчык.

# ЛЕТАМ

Люблю пад кустом я
Ля рэчкі сядзець,
На сівыя хмаркі
Падоўгу глядзець:
Плывуць яны ціха,
Як думкі плывуць,
На землю ледзь бачныя
Цені кладуць.

* * *

Люблю я ў дзень летні
На лузе гуляць,
Лавіць матылёчкі
І кветачкі рваць.

* * *

Люблю я з сябрамі
Пайсці ў лясок.
У полі хай спёка,
А тут халадок.

Цягае вавёрка
Арэхі сабе,
А дзяцел стракаты
Асіну дзяўбе.

Прыемна пад дрэвам
Ціхутка стаяць
І слухаць, як нешта
Лісточкі шумяць.

А. Крот



# ЛЯЛЬКА „КАМПЕСІНОС“

Маленькая Даларэс выставіла чорную ўскудлачаную галоўку і адразу-ж зноў схавала яе пад лахманы.

Вось ужо другі дзень ляжыць яна ў куточку на саломе. Стулілася нібы тое звяранё і баіцца зварухнуцца, бо на двара дзеецца нешта страшнае. Спачатку быў бой—грукацелі стрэлы. Даларэс бачыла, як беглі людзі са стрэльбамі, стралялі, кідаліся і паміралі проста на вуліцы.

А потым у сяло Эль Піэтро, дзе жывуць Даларэс і яе брат Хуан, увайшлі страшныя людзі з раз'юшанымі абліччамі—фашысты. Яны расстралялі на вачах Даларэс яе тату і брата Антоніо і яшчэ многа людзей.

Ноч. Даларэс чуе прыцішаныя галасы. Гэта Хуан і яшчэ некалькі хлопцаў сабраліся каля ложка параненага „кампесінос“—партызана, што ляжыць у другім кутку пакоя.

— Гэту вестку трэба перадаць у Санта-Колас... абавязкова,—ціха гаворыць паранены.

— Але як-жа перадаць? Ніхто з нас не выйдзе з сяла жывым,—шопатам адказаў Хуан.

Усе змоўклі. Праўду кажа Хуан.

— А вестку трэба перадаць!—паўтарае паранены.

І зноў усе маўчаць.

— Я хачу да мамы!—раптам парушае цішыню плач Даларэс.

— Ты хочаш да мамы?—запытаў паранены.

— Ідзі да мамы! Ідзі, дзіцятка, да мамы!.. Пойдзеш да яе?

— Да мамы хачу!—жаласна шэпча Даларэс.

— Хай ідзе да мамы, яна пройдзе,—кажа паранены.

Хуан узяў Даларэс на рукі:

— Не! Адну ні за што не пушчу. Я пайду сам з ёю.—Хуан моцна прытуляе да сябе Даларэс.

Ой! Што гэта? Усе здрыгануліся. Што стукнула?

— Гэта мая лялька ўпала далоў,—сказала Даларэс.

Хуан засмяяўся і пусціў Даларэс. А паранены заварушыўся на ложку.

— Дастаньце, хлопцы, іголку, нітку і кусок матэрыі. Вось сюды, пад спаднічку, падшыем падкладку... І твая лялька, Дала-

рэс, панясе маме вестку. Ідзі, дзяўчынка, у Санта-Колас. Там мама. Але нікому-нікому не аддавай сваёй лялькі, толькі маме. І нікому нічога не кажы. Лялька сама перакажа маме.

На дварэ пачало світаць. Даларэс ціхутка ідзе да дзвярэй і спыняецца на парозе. Страшна!.. Але-ж там мама.

Даларэс бяжыць, потым ідзе і зноў пачынае бегчы—хутчэй-бы да мамы. Вось нейкія ўзброеныя людзі. Даларэс хаваецца за куст.

— Мабыць няма цяпер зусім людзей без стрэльбаў,—думае сабе Даларэс, а стрэльбаў яна баіцца больш за ўсё.

— Куды гэта ты? Не можна! Ідзі назад.

— Да мамы. Там мама,—жаласным голасам адказвае Даларэс.

— А гэта што?

Даларэс не паспела і крыкнуць, як фашысцкі вартавы груба выхапіў у яе з рук ляльку і кінуў яе ў рэчку. Але лялька затрымалася за поручні і ўпала на мост.

У гэты час дзесьці затарахцеў кулямёт. Вартавы насцярожыўся. Можа пачынаецца бой?

Даларэс кінулася да лялькі. Бедная лялька!—ад галоўкі засталіся толькі кавалачкі. Яна моўчкі прытуліла ляльку да грудзей і, не азіраючыся, пабегла праз мост.

Вось і другі бераг—тут ужо фашыстаў няма.

Вось і Санта-Колас. Ой, і якое-ж вялікае гэта мястэчка! Дзе тут шукаць маму? А сонца прыпякае ўсё мацней і мацней. Вось плот—хоць хвілінку адпачыць! Даларэс садзіцца на сходачку. Галоўка яе схіляецца на грудзі, і яна засынае, моцна трымаючы ляльку ў руках.

— Што гэта? Ты чаго тут?—гукнуў нейкі чалавек. Ён ішоў дамоў падвыпіўшы і ледзь не наступіў на Даларэс.

Яна адразу прачнулася.

— А што там у цябе? Лялька? Палажы яе на зямлю.

— Не можна!

— Чаму не можна?—здзівіўся чалавек.

— Гэту ляльку нікому нельга аддаваць, толькі маме.

— Вось як!—зацікавіўся чалавек. — А чаму-ж гэта нельга?

— Бо яна нясе маме вестку.

— А дзе-ж тая вестка?

— Лялька сама перакажа маме,—упэўнена адказала Даларэс.

Чалавек зарагатаў.

— Яна-ж пабітая. У яе і рота няма, як-жа яна перакажа?

Даларэс хацела ўцякаць—гэты чалавек так моцна і непрыемна рагатаў.

— А хто-ж твая мама?

— Маю маму завуць Кармен Фернандэс Бланко.

— А-а-а! Дык гэта твая мама камандуе атрадам рэспубліканцаў.

— Вы знаеце маю маму? Завядзіце мяне да яе,—сказала Даларэс.

— А хто-ж пабіў тваю ляльку?—запытаўся чалавек.

— Фашыст пабіў,—уздыхнула Даларэс і з жалем паглядзела на ляльку.

— Та-ак. Паганы фашыст! А хочаш, я куплю табе новую ляльку?

Ён павёў яе ў краму. Даларэс не магла сама выбраць сабе ляльку. Ёй падабалася і тая і гэтая. Чалавек купіў прыгожую ляльку, што ўмела нават заплюшчваць і расплюшчваць вочкі,—кучаравую, у шаўковай сукенцы і ў капялюшыку.

— Бяры! Гэта цяпер твая лялька,—сказаў чалавек, калі яны вышлі з крамы.

Даларэс працягнула ўжо руку, калі чалавек таксама працягнуў руку.

— Ты дасі мне сваю ляльку, а я аддам табе маю. Згодна? Мая-ж лепшая!



*— Ты дасі мне сваю ляльку, а я аддам табе маю, —працягваючы руку сказаў ён.*

Даларэс паглядзела на разбітую галоўку сваёй лялькі, на яе ўскудлачаныя валасы і зноў зірнула на прыгожую з сінімі вочкамі новую ляльку.

— А хто-ж перадасць маме вестку?— раптам успомніла Даларэс.

— Мая лялька перакажа. Яна ўмее гаварыць. А твая ўжо нічога не скажа, бо яна пабітая,—адказаў чалавек.

— Не! Не хачу! Не аддам!—яна ўпарта заківала галавою, моцна прытуляючы да сябе ляльку.

І раптам—як гэта здарылася? У руках у Даларэс апынулася тая красуня, а яе ляльку выхапілі.

— Аддайце маю ляльку!—закрычала Даларэс.

Яна бегла з усяе сілы за чалавекам і крычала:

— Аддайце! Аддайце маю ляльку.

Раптам з-за рогу вуліцы вышаў чалавек у форме камандзіра рэспубліканскай арміі. Ён бачыў, як Даларэс разбіла прыгожую новую ляльку, і чуў яе астатнія дзіўныя словы. Але ён не разумеў, што гэтыя словы азначаюць. Наогул, камандзір ведаў больш за Даларэс, ён ведаў, што ўсюды могуць быць здраднікі-фашысты.

І калі Даларэс у роспачы закрычала: „Лялька нясе маме вестку!"—ён выхапіў свісток і засвістаў.

У гэты-ж момант чалавека акружылі салдаты.

Даларэс абнімала і цалавала сваю выратаваную ляльку.

— Чыя ты, дзяўчынка?—запытаў камандзір.

— Я—маміна. Мая мама—Кармен Фернандэс Бланко. Я...

Але камандзір ужо не слухаў. Ён узяў Даларэс на рукі.

— Арыштуйце яго,—загадаў ён салдатам.—Гэта шпіён. Ён хацеў перахапіць вестку.

Камандзір увайшоў з Даларэс на руках у казарму.

— Кармен, на табе тваю дзяўчынку!

— Мама! Мамачка!—Даларэс ужо на каленях у мамы. Але якая дзіўная мама: у штанах, у форме. Даларэс перабірае блі скучыя гузікі на яе ўбранні.



*— Кармен, на табе тваю дзяўчынку!*

— Мама, мая мама!

Мама туліць яе да сябе і разам з тым уважліва чытае вестку. Камандзір таксама чытае.

— Мы павінны даць ім адказ, Кармен,— кажа камандзір.

Мама штосьці адказвае яму, але Даларэс ужо не чуе: яна засынае на каленях у мамы.

— Даларэс! Даларэс!—будзіць яе мама ўжо раніцай.—Збірайся хутчэй, час табе вяртацца да Хуана.

— Не, мама! Я з табою хачу.

— Са мною табе аставацца нельга. Мы ваюем. А Хуану таксама трэба перадаць вестку. Лялька мне перадала і Хуану перадасць. Ведаеш, што яна перадасць? Што я скора-скора вярнуся дадому. Але толькі тады, як ты хутка дойдзеш і не згубіш па дарозе лялькі.

Мама праводзіць Даларэс да ваколіцы мястэчка.

— Ідзі, дзіцятка, не бойся. Скора-скора і я прыду дамоў!

Вось і Эль Піэтро! Вось і родная хата.

— Хуан, Хуан! На табе ляльку. Яе набіў фашыст, але яна перадала маме вестку.—І табе нешта перадасць!—Даларэс хітра ўсміхаецца.—Цяпер я ўжо ведаю, дзе яна носіць весткі—вось тут пад спадніч каю. Але я нікому не кажу, толькі табе і маме.



# Пра слаўных папанінцаў з нашага саду

*Верш А. Ушакова і А. Жаўрук*

*Рысункі В. Тіхановіча*

Лёша быў—Іван Папанін,
Таня—Крэнкель,
Я—Ыршоў,
А за Фёдарава—Танін
Брацік Вася ў нас сайшоў.

Толькі „Жук"—шчанюк Міколы
Ўсё здзіўляўся ад таго,
Што не „Жукам", а „Вясёлым"
Называлі ўсе яго.

Па двару, нібы па полю,
Шмат блукалі мы тады,
Мы шукалі, дзе тут полюс.
Прызямліцца-б нам куды.

Толькі бачым—вось драбіна,
Дровы, дошкі—Лёша горд:
— Чым не льдзіна?
— Праўда, льдзіна?
— Як-жа, льдзіна—першы сорт!

Мы ўзыйшлі. І першым чынам
Я чырвоны гальштук свой,
Як славуты сцяг айчыны,
Горда ўзняў над льдзінай той.

Снежнай цэглы накаталі—
Сорак штук, за комам ком,
Спрытна склалі,
Падраўнялі—
Збудавалі снежны дом.

Тут сказаў нам хлопчык Федзя:
— Што за полюс без мядзведзя?—
Шубу белую у бабкі
Зараз я пайду вазьму,
За мядзведзя,—кажа Федзя,—
Першасортнага сайду.

Потым Таня тэлеграму
Пачала перадаваць:
— „Можна мне, таварыш мама,
Шчэ з гадзінку пагуляць"?

Шле адказ у фортку мама:
„Папа згодзен, я—таксама“.

Праз хвіліну хлопчык Федзя,
Ўсім падобны да мядзведзя,
Ў шубе белай, быццам снег,
З дому ў лагер наш прыбег.

Ад дзяўчынкі хворай Томы
Нам прывёз вітанне ён...
Толькі бачым вось—ад брамы
Дворнік наш бяжыць Сымон...

— Гэта што тут за навіны?
Вы ці я тут гаспадар?—
Параскідвалі драбіны,
Начапілі, бач, штандар.

Гэй, каціцеся хутчэй!
Прэч, кажу, з маіх вачэй!
Напалохаліся дзеці,
Жах вялікі ўзяў дзяцей.

Толькі Лёша непакорны
Стаў журыць таварышоў:



— Не палохаліся штормаў
Ні Папанін, ні Шыршоў.

Нам таксама не да твару
Перад штормам адступаць,
Нам патрэбна толькі пару
Цёплых слоў яму сказаць.

— Нам каціцца не гадзіцца,—
Растлумачыў дзеду ён,—
Як-жа можна нам каціцца,
Мы-ж папанінцы, Сымон?!
Ты падумай толькі сам,
Ці да твару гэта нам!

— А, дык вось у чым тут справа!—
Падхапіўся дзед рухава,—
Хто-ж Папанін тут у вас?
Лёша кажа:—Я якраз.
Я і ёсць Іван Папанін,
Таня—Крэнкель,
Ён—Шыршоў,
А за Фёдарава—Танін
Брацік Вася ў нас сайшоў.

Ну, а гэта-ж не драбіна,
А дрэйфуючая льдзіна—
Можаш сам ты паглядзець:
Вось вятрак,
А вунь мядзведзь.

— Я-ж не знаў, кажу вам зноў я,—
Усміхаецца Сымон,—
Ну, дрэйфуйце на здароўе,
Я не супраць,—кажа ён.

Ў гэты момант мы пачулі
Стогалосае „ура“,
Ў гэты момант распахнулі
Браму нашага двара
Юры,
Томы,
Вовы,
Пеці—
Жакта нашага ўсё дзеці,
За сабой яны вялі
На аборках караблі.



Першым „Мурманец“, з „Таймырам“,
Потым „Мурман“ плыў услед.
Ад радзімы камандзіры
Перадалі нам прывет.

І ў наступную хвіліну
Ўсе уз'ехалі на льдзіну,
А здалёку даў нам знак
Шапкай Юрынай „Ермак“.

Ехаў Шмідт на ім сюды,
Толькі вельмі малады,
Бо спяшаўся дужа Юра—
Не прыладзіў барады.

Юра крыкнуў:
— Вас, героі,
Гэтай слаўнаю парою
Я вітаю! Вам не страшны
Ні Сымон і ні мароз!

А цяпер паведамляюць,
Што вячэры нас чакаюць;
Трэба курс трымаць дадому—
Я загад такі прывёз.

Тут мы селі ўсе на санкі
Без разбору,
Хто куды,
І ад нашай, ад стаянкі
Мы адчалілі тады.
Зарыпеў па снегу полаз,
Паімчалі караблі.
— Ну, бывай, Паўночны полюс!
— Не сумуй, вясёлы полюс!
— Наш маршрут, старэча полюс,
Да Вялікае Зямлі.

Двацацць пап
І двацацць мам
Нас даўно чакаюць там—
У дзіцячы сад спазніцца
Немагчыма заўтра нам.

А на льдзіне нашай слаўнай,
Дзе гасцілі мы нядаўна
І не ведалі бяды,
У кашлатай шубе Федзю,
Замест белага мядзведзя,
Мы пакінулі тады:

— Павартуй наш домік крышку.
Будзь свядомы ты, мядзведзь!
Толькі бачым: хутка „Мішку“
Надакучыла сядзець

У самотным гэтым доме
На заснежанай саломе.
Вылез „Мішка“ цераз комін,
З льдзіны скочыў ён у снег

І, махаючы рукамі,
Наўздагон за караблямі,
За вясёлымі санямі,
Быццам заяц той, пабег.



# ЗАЛАТЫ ЖБАН

(Адыгейская казка)

Адзін князь выдаў закон, па якому ўсе дзеці павінны былі забіваць сваіх бацькоў, як толькі тыя састарацца.

Вось аднойчы павёў юнак свайго бацьку забіваць. Выбраў ён для гэтага самую цёмную, глухую цясніну і там, замест таго, каб забіць, схаваў бацьку, а сам стаў прыносіць яму тайком ежу.

Паблізу аула, пад высокай крутой скалой, працякала рака. І са скалы відаць быў у глыбіні ракі залаты жбан. Ён ляжаў глыбока на скалістым дне, і дастаць яго было вельмі цяжка і небяспечна.

Князь аб'явіў народу:

— Хто дастане жбан, той атрымае яго як узнагароду.

Шмат смельчакоў імкнуліся дастаць, але варочаліся заўсёды з пустымі рукамі. А за тое, што яны браліся дастаць і не дасталі, князь іх бязлітасна вешаў.

Так загінула ўжо дзевяноста дзевяць чалавек.

Аднаго разу юнак прынёс, як заўсёды, ежу свайму бацьку. Ён быў сумны. Стары адразу заўважыў гэта і стаў дапытвацца чаму ён такі сумны.

— Мне хацелася-б дастаць з дна ракі залаты жбан. Шкода глядзець, колькі гіне праз яго народу! Але жбан гэты, відаць, чароўны. Яго можна бачыць у вадзе толькі з высокай скалы, а потым ён знікае бясследна.

— Дзіця маё, — сказаў бацька, — ці не расце на скале высокае дрэва? Паглядзі, сын, ці не ў цені гэтага дрэва відаць у рацэ залаты жбан? Калі так, дык забярыся на дрэва, і ты дастанеш яго, не прыгаючы ў ваду. У вадзе не жбан, а толькі яго адбітак.

Юнак падзякаваў бацьку і паімчаўся з

такой хуткасцю, што фар, казачны конь, і той не змог-бы яго абагнаць.

Каля ракі было ўсё так, як казаў юнаку бацька. Юнак зараз-жа адправіўся да князя.

— Твая галаза якраз давядзе лік да сотні,—сказаў яму князь.—Глядзі-ж, не дастанеш жбан,—будзеш павешан, як і ўсе астатнія.

— Згодзен. Але калі я дастану жбан, дык ён будзе мой, і акрамя таго, у нашай краіне раз назаўсёды будзе адменен закон аб забойстве старых людзей.

Так і дагаварыліся.

Затым юнак адправіўся на скалу, але не прыгнуў у ваду, а стаў узбірацца на дрэва.

Усе на беразе анямелі ад здзіўлення. Што ён з дрэва хоча прыгнуць у раку, ці што?

Вось юнак спусціўся з дрэва. У руках у яго быў залаты жбан.

— Золата тваё,—сказаў юнаку князь.— Але адкрый мне цяпер, хто навучыў цябе гэтаму.

Юнак доўга не адважваўся сказаць праўду, каб не выдаць свайго бацьку. Але князь не адпусціў яго, пакуль ён не адкрыў яму ісціны.

— Старыя, мабыць, валодаюць асаблівай мудрасцю, — рашыў князь,—калі адзіны стары, які астаўся ў жывых, угадаў тое, чаго не маглі ўгадаць столькі маладых.

З таго часу ў гэтай краіне быў адменен назаўсёды жорсткі і несправядлівы закон, і старыя людзі карысталіся там вялікім гонарам і павагай.

---

# ЦІКАВА ПРАВЯЛІ ЛЕТА



1

У лагеры, дзе я адпачываў, мы, юнаты, злавілі невялікага вожыка і гадзюку такую страшную, шэрую. Гадзюку заспіртавалі, а вожыка ўсе даглядалі і паілі малаком. Калі яго пакідалі аднаго ў пакоі, ён вылазіў з сваёй скрынкі і лавіў мышэй. Яшчэ я зрабіў калекцыю жукоў і розных каменьчыкаў.

*ПАВЕЛ МАРТЫНОЎСКІ*

*Менск, 45-я школа.*

2

Лета я правёў добра. Адпачываў у лагеры акцябрат. Я састаяў у гуртку юных натуралістаў. Весела было нам. Кожны дзень мы бегалі па лесе, па палянах, ганяліся за прыгожымі матылькамі.

Я паказаў маім таварышам па класу калекцыю матылькоў, якую зрабіў сам.

*ЛЁНЯ СОБАЛЬ*

*Менск, 40-я школа.*



# Прагулка на слане

*Верш Г. Карэйшы* *Рысункі Н. Малевіча*

Першакласнік Шчучкін Пеця,
Юны жыхар лагероў,
Цэлы дзень глядзеў ў газэце
З лёгкім страхам на звяроў.
А звяло ледзь вочы сном—
Тут як тут звяры ізноў!..
Звяры тыя-ж, не другія,
Ды зусім, зусім ручныя...
Як на казачным кані,
Пеця скача на слане,
А за Пецем, як за старшым,
Ўслед імчыць бадзёрым маршам
„Кавалеры" атрад—
Увесь з лагерных рэбят:
Федзя—на мядзьведзі,
Коця—на бегемоце,
Гога—на насарогу,
Люда—на вярблюдзе,
Соня—на бізоне,
А Ліля—на кракадзіле.
Раптам крошачны хлапчышка
Перагнаў іх на зайчышку,
І, падняўшы ўверх трубу,
Адтапырыўшы губу,
Гучна-гучна затрубіў...
Пеця шлёпнуўся... з пасцелі...
І сядзіць, дрыжыць, як ліст...
Сосны за вакном шумелі,
Воблакі паружавелі,
Заліваўся фанфарыст.





# СТРАШНАЯ СУСТРЭЧА

*М. ПРЫШВІН*

Гэта вядома ўсім паляўнічым, як цяжка вывучыць сабаку не ганяцца за звярамі, катамі і зайцамі, а адшукваць толькі птушак.

Аднойчы ў часе майго урока Ромку, мы вышлі на палянку. На тую-ж палянку вышаў тыгравы кот. Ромка быў з левай рукі ад мяне, а кот—з правай, і так адбылася гэтая страшная сустрэча. У адзін момант кот адвярнуўся, пусціўся наўцёк, а за ім рынуўся Ромка. Я не паспеў ні свіснуць, ні крыкнуць „тубо“ [1].

Вакол блізка не было ніводнага дрэва, на якое кот мог-бы ўзабрацца і выратавацца ад сабакі,—кусты і палянкі без канца. Я іду памалу, як чарапаха, разбіраючы сляды Ромкавых лап на сырой зямлі, на гразі, на краях лужын і на пяску раўчакоў. Шмат перайшоў я палянак, мокрых і сухіх, пералез цераз два ручайкі, два балоты, і, нарэшце, раптам усё адкрылася: Ромка стаіць на палянцы, не зварухнецца, з налітымі кроўю вачыма; супроць яго вельмі блізка тыгравы кот, спіна гарбатым вясковым пірагом, хвост памалу падымаецца і апускаецца. Няцяжка мне было дагадацца, аб чым яны думалі.

Думаў я:

— Калі мне да іх падыйсці, кот пусціцца наўцёк, за ім пусціцца і Ромка. Хіба паспрабаваць Ромку паклікаць...

Доўга раздумваць, аднак, мне не было калі. Я парашыў пачаць усмірэнне звяроў з размовы па-добраму. Самым ласкавым голасам, як дома ў пакоі у часе нашай гульні, я назваў Ромку па імені.

— Раман Васіліч!

Ён пакасіўся. Кот завыў.

Тады я крыкнуў цвярдзей:

— Раман, не дурыся!

Ромка струсіў і мацней пакасіўся. Кот мацней правыў.

Я выкарыстаў момант, калі Ромка пакасіўся, паспеў падняць руку над сваёю галавою і так зрабіць, нібы сяку галовы і яму і кату. Убачыўшы гэта, Ромка падаўся назад, а кот, думаючы, што Ромка струсіў, і пра сябе, вядома, радуючыся гэтаму, правыў з пералівам звычайную катовую пераможную песню. Гэта закранула самалюбнасць Ромкі. Ён, адступаючы задам, раптам спыніўся і паглядзеў на мяне, пытаючыся:

— А можа даць яму?

Тады я яшчэ раз рукою ў паветры адсек яму галаву і на ўсё горла выкрыкнуў беспаваротны свой загад:

— Тубо!

Ён падаўся яшчэ да кустоў, абходам з‘явіўся да мяне. Так я зламаў дзікую волю сабакі.

А кот уцёк.

[1]) „Тубо“—значыць „неможна“.

# У ВОЛЬНЫ ЧАС




## У школу

*Галаваломка*

Чатыры вучні жывуць побач у дамах №№ А, Б, В, Г, але наведваюць яны розныя школы. Аднойчы раніцой хтосьці прыкмеціў: кожны вучань ідучы у школу, не перасякаў дарогі другому і не выходзіў за межы квадрата.

Вазьміце, рэбята, аловак і папрабуйце правесці кожнага вучня так, каб хлопчык з дома А папаў у школу А, а хлопчык з дому Б—у школу Б і т. д. Дарогі іх не павінны перасякацца. Як яны павінны ісці?

## Загадкі

1. Голасу не мае, а казку скажа і песню спяе.

2. Пад якім дрэвам сядзіць вавёрачка, калі дождж ідзе?

3. Цэлы дзень круціцца вакол хаты, ноччу стаіць ён у куточку.

## 13 мышэй

Аднойчы кату прысніўся сон, як быццам ён акружан 13 мышамі. Сярод іх ёсць адна белая мышка. Вельмі спадабалася кату белая мышка, і ён рашыў з'есці яе апошняй, прычым з'есці ён хацеў кожную 13-ю мышку, адлічваючы у тым напрамку, куды глядзяць мышкі. Доўга думаў кот, з якой мышкі пачаць, і нарэшце, прыдумаў. Што рашыў кот?



## Загадачны рысунак

Дапамажыце гэтаму хлопчыку знайсці свайго таварыша, які кудысьці схаваўся ў часе прагулкі.



ЦАНА 30 кап.



# У ЗОАПАРКУ

Тэкст Я. Хелемскага.




1. Звяроў дражніць не можна? Не?
А, ну-ка, пруцік дайце мне!



2. Бяда! Ратуйце! Я прапаў...
Звярам у лапы я папаў.



3. Ах, калі-б мог я памірыцца...
Ды як мне з імі згаварыцца?



4. Я гіну?.. Што я натварыў!?
Гарыл на помсту натравіў!..



5. Пад малпава выццё і піск
Лячу я галавой уніз...



6. Ух! Вось прышоў ратунак мне!
Як добра ўсё-ж, што гэта ў сне!

Радактар І. МАСАРСКІ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Менск. 17.500 экз. Зак. № 3768. Уп. Галоўліта БССР № 2376.